© PDF: Kamunikat.org 2017 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017




Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

МАСАВА-ПАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК

# Газета Слонімская

№36 (274) | 5 — 11 верасня 2002г. | Наклад 11.500 экз. | Кошт 250 руб.

«ГАЗЕТУ СЛОНІМСКУЮ» ЧЫТАЮЦЬ Слонім, Зэльва, Дзятлава, Масты, Ваўкавыск, Шчучын, Ліда, Гродна, Баранавічы, іншыя гарады Беларусі, а таксама на HTTP://gs.promedia.by


**АНОНС**



# ЗДРАВСТВУЙ, ШКОЛА!




*2.09.2002г. Первоклассники восьмой Слонимской школы со своей первой учительницей*

**СМИ И ВРЕМЯ**

## НЕУДЕРЖИМЫЕ ЦЕНЫ

**С четвертого квартала текущего года на 38 процентов повышаются тарифы Республиканского объединения "Белпочта" за доставку печатной продукции для недотируемых изданий.**

Стоимость ежедневной доставки одного номера стандартной газеты (формат А2, 4 полосы) для индивидуальных подписчиков поднимается с 97,6 до 135 рублей, для ведомственных — с 96,1 до 132 рублей. Напомним, что к недотируемым государственным относится и «Газета Слонімская».

Повышение производится в связи с увеличением себестоимости услуг доставки. Нынешние тарифы не покрывают расходы РО "Белпочта", и предприятие в июле понесло убытки, а введение новых тарифов позволит поднять рентабельность до 5-10 процентов.

Однако, в сложившейся ситуации распространение будет обходиться дороже, чем издание газет, что противоречит общемировым стандартам, отмечают издатели частных печатных изданий.

**Анатолий МИРСКИЙ**

Курсы обмена валют в г. Слониме по состоянию на 9[50] 3.09.2002г.

| | Покупка | Продажа |
|---|---|---|
| **"Беларусбанк"** | | |
| 1 USD | 1840 | 1880 |
| 1 EURO | 1785 | 1825 |
| 1 RUR | 57 | 59 |
| **оао "Белпромстройбанк"** | | |
| 1 USD | 1845 | 1875 |
| 1 EURO | 1805 | 1835 |
| 1 ZL | 435 | 455 |
| 1 RUR | 57,2 | 59 |
| **"Белагропромбанк"** | | |
| 1 USD | 1835 | 1875 |
| 1 EURO | 1790 | 1820 |
| 1 RUR | 57 | 59 |
| **Нацбанк РБ** | | |
| 1 USD | 1849 | |
| 1 EURO | 1815,35 | |
| 1 RUR | 58,57 | |

**НАВІНЫ**

## ГАСПОДЗЬ У ВОБРАЗЕ АГНЮ НАВЕДАЎ СЛОНІМ

**Надвячоркам, 30 жніўня, наш горад і раён наведала рэспубліканская навукова-творчая экспедыцыя "Дарогамі святыняў".**

Сустрэча пачалася каля Спаса-Прэабражэнскага сабора. Сотні праваслаўных вернікаў шчыра віталі гасцей, якія прывезлі агонь ад гроба Гасподня. Ён у дзевяты раз прыйшоў на Беларусь у кантэксце Дзён беларускага пісьменства і друку, які штогод адзначаецца першага верасня.

Сустрэчу адкрыў намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама Анатоль Цярэнін. Пасля яго выступіў айцец Віктар і паэтка Ніна Загорская. Агонь ад гроба Гасподня быў унесены ў сабор і асвяціў яго. Ад святога агню людзі запальвалі свечкі, жадаючы адзін аднаму шчасця і дабра.



*Лямпу з агнём Божым выносяць з храма да вернікаў*

Пасля Слоніма навукова-творчая экспедыцыя наведала Жыровічы, Шылавічы, Альбярцін і пасёлак Мір, дзе прайшло свята беларускага пісьменства і друку.

**Сяргей ЧЫГРЫН, фота Віталя ГІЛЯ**


Лиц № 30 от 30.11.99г. до 30.11.04г., СПИК
ТЕХНИКА для ДОМА И ОФИСА
2-15-30 г. Слоним, ул Советская,8

постоянно организовываем ПОЕЗДКИ
надёжно комфортно безопасно
НА АВТОБУСАХ "Форд-Транзит" "Мерседес-Спринтер"
МИНСК 222-99
8-0296-551499; 219-52
ГРОДНО 513-67
Принимаем заявки по перевозке пассажиров по РБ.
Тел. 222-99; 8-0296-574024
ПРЕВРАТИ СВОЮ ПОЕЗДКУ В МАЛЕНЬКОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ

Откройте мир вместе с нами!
1. Организовываем ЭКСКУРСИИ по Беларуси, в Польшу, Литву на комфортабельных автобусах Volvo, (48+2) Mercedes (49+2) мест
Принимаем заявки от организаций, школ и населения.
2. Организовываем ПОЕЗДКИ в г.МОСКВА (Черкизовский рынок) каждый понедельник.
3. Осуществляем Международные перевозки туристических групп, шоп-туров, групп для отдыха в курортные зоны Украины, Болгарии, Чехии.
8-0296-22-18-08
Лиц. № 5-0288 27.04.2001г.-26.04.2006г. МТК

Организовываем поездки на а/м "Форд-Транзит" в ГРОДНО 15 мест.
Принимаем заявки по перевозке пассажиров по РБ.
Запись по тел.: 2-14-90 или 8-0296-78-09-72.
Лиц. № 5-0474, 15.07.02г.-14.07.04г. МТК РБ

СТКУП "Товары для дома и быта" (ул. Школьная, 4а), тел. 2-53-41, 2-17-27
ХОЛОДИЛЬНИКИ "Атлант" новейших моделей
ОБОИ производства ОАО "Белорусские обои" г. Минск
ЛИНОЛЕУМ шир.1,5-3 м
СВЕТИЛЬНИКИ
ПЛИТЫ газовые GEFEST
ТЕЛЕВИЗОРЫ "Витязь"
Все товары в кредит 55% годовых в ОАО "Беларусбанк"
и всё, всё, ВСЁ для хозяйственных нужд
ПОСТОЯННО ОБНОВЛЯЮЩИЙСЯ АССОРТИМЕНТ

Осуществляем поездки в г. Гродно автобусом "Форд-Транзит" (15 мест).
Принимаем заказы на обслуживание коллективных мероприятий.
Запись по тел. 5-24-45.
Лиц. № 5-0482, 02.08.02г.-01.08.07г. МТК РБ

новые поступления СВЕТИЛЬНИКИ
самый большой выбор в городе
качество высокое цены доступные
наличный и безналичный расчет
ДВЕРИ металлические, из дерева
ОКНА оконная и дверная фурнитура
СМЕСИТЕЛИ для кухни, ванны
ул.Купалы,5; ул.Первомайская, 5
Тел. 4-63-89; 8-0296-589179
Магазины "Мастер"

Магазин "ВСЕ ДЛЯ СТРОЙКИ И РЕМОНТА"
расчет наличный, б/наличный, кредит в ОАО "Беларусбанке"
Мы работаем:
понедельник-пятница с 9.00 до 19.00;
суббота-воскресенье с 9.00 до 16.00.
Ул. Первомайская, д.3, тел. 2-30-00.






Всегда в продаже:
- клеевой раствор «Люкс» — 25 кг — 7300 руб., «Люкс плюс» — 25 кг — 11900 руб.;
- штукатурка «Люкс» — 25 кг — 3800 руб.;
- шпаклёвка «Люкс» —15 кг — 8300 руб.;
- фуги в ассортименте от 2200 руб.;
- обои импортные пр-во Германия и Украина от 2200 руб. (более 100 наименований).

Внимание!
Появилась в продаже краска УП «МАВ» от 2250 руб.


© PDF: Kamunikat.org 2017 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017

© PDF: Kamunikat.org 2017
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017



## ЮБІЛЕЙНАЯ АФІША

**6 верасня**

**15.00** – Урачыстае адкрыццё свята, прысвечанага 750-годдзю горада (РДК).

**17.00** – Святочны канцэрт з удзелам лепшых творчых калектываў (РДК).

**7 верасня**

**9.00** – Адкрыццё мемарыяльнай дошкі Язэпу Стаброўскаму на будынку раённага краязнаўчага музея.

**9.30** – Адкрыццё фотавыставы Уладзіміра Янушэвіча "Слонім і людзі" у вёсцы Жыровічы.

**10.30** – Адкрыццё выставачнай залы музея ў вёсцы Жыровічы.

**11.00 – 12.00** – Канцэрт хора ветэранаў вайны і працы "Памяць", удзельнікаў мастацкай самадзейнасці Слонімскага аўтапарка ("Пеўчая" пляцоўка).

**11.00 – 12.00** – Канцэрт вакальнай групы "Славяначка" (пляцоўка каля кінатэатра "Мір").

**11.00** – Мястэчка "Апетытнае", вул Першамайская (сталовая №1).

**11.00 – 12.00** – Пляцоўка "Гульнявая" – гульні для дзяцей і дарослых.

**11.00** – Працуюць арэлі і атракцыёны, электрамабілі (гарадскі парк).

**14.00 – 16.00** – Тэатралізаванае прадстаўленне, прысвечанае 750-годдзю г. Слоніма "З мінулага ў будучае" (стадыён "Юнацтва").

*Цэнтральная сцэна Першамайскай вуліцы.*

**16.30 – 18.00** – Канцэртная праграма ансамбля "Сябры" пад кіраўніцтвам народнага артыста РБ Анатоля Ярмоленкі.

**18.00** – Слонім вітаюць з юбілеем эстрадныя калектывы Гродзеншчыны.

**19.30 – 20.30** – Канцэрт Мінскага тэатра эстрады Вячаслава Сікоры.

**20.30 – 22.30** – Эстрадны канцэрт "Вас вітаюць землякі" з удзелам Вольгі Змуршчык, Алены Кананчук, Аляксандра Зварыча, Аляксандра Яфіміка.

**22.30 – 24.00** – Святочная дыскатэка.

**22.00** – Феерверк.

**8 верасня**

**10.00 – 11.30** – Агляд-конкурс падворкаў калгасаў, саўгасаў, прадпрыемстваў. Выстава народных майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (Першамайская вуліца).

**11.00** – Дзень адчыненых дзвярэй у краязнаўчым музеі.

**11.00 – 12.00** – Сустрэча з пісьменнікамі Слонімшчыны (Пляцоўка каля цэнтральнай раённай бібліятэкі).

**11.00 – 12.00** – Шоу-праграма тэатра моды (пляцоўка каля універмага).

**11.00 – 12.00** – Свята музыкі і песні "Чароўных гукаў асалода" з удзелам заслужанай артысткі Расіі Людмілы Іларыёнавай (плошча Леніна).

**11.30 – 13.00** – Фальклорнае свята "Дажынкі" (Першамайская вуліца).

**12.00 – 14.00** – Свята дзяцінства (гарадскі парк).

**13.00 – 14.30** – Канцэртная праграма з удзелам калектываў "Славяначка", "Вяселле", "Грымата" (Першамайская вуліца).

**14.30 – 16.00** – Канцэрт ансамбля дзяржтэлерадыё "Бяседа" (Першамайская вуліца).

**16.00** – Урачыстае закрыццё свята.

**16.30** – Футбольны матч ветэранаў каманд "Дынама" (Мінск) і ветэранаў слонімскага футбола. Ад "Дынама" у матчы прымуць удзел Іван Жэкю, Генадзь Лясун, Віктар Сокал, Валерый Вялічка, Георгій Кандрацьеў і іншыя вядомыя футбалісты (стадыён "Юнацтва").

ВЁСКА

# А кім бы яны былі БЕЗ КАЛГАСА?

**"Пакралі, парасцягалі ўсё па дамах, а цяпер у калгасе нічога няма!" — такія і падобныя выказванні ў адрас уладальнікаў прыватных трактароў і бульбакапалак хутка можна будзе пачуць на капанні сотак.**

Адзінокая бабуля, якая ходзіць з раніцы да палудня па полі за калгасным трактарам з бульбакапалкай і не можа "выхадзіць" хаця б адзін праход, да прыватніка, бывае, звяртаецца. Але ёй вельмі не хочацца плаціць яму грошы. Бо бабуля ведае, што гэты трактар калісьці быў калгасным і капалка адтуль. А жанчына прапрацавала ў тым калгасе ўсё жыццё, а ў яе — нічога. Не справядліва.

У бедных асабліва моцна абвострана пачуццё справядлівасці. Дзеля яе ўсталявання ім нічога не шкада і нікога. Бо самім губляць няма чаго. А разуменне справядлівасці чыста бальшавіцкае — адабраць і падзяліць.

"Жыве ў в.Навасёлкі Паўлаўскага с/с адзін майстар. Працаваў у калгасе "на помніках". Казалі, ва ўбытак. А ўсё пакраў у калгасе — стаў прыбытковым прадпрымальнікам.

Ёсць у нас і іншы майстар. Робіць мэблю. Прыехаў у калгас голым. Стаў прыватнікам. І так у яго справы пайшлі, што нават за мяжу ўжо дапнуў са сваёй мэбляй.

А кім бы яны былі без калгаса?" – гэта ўрывак з ліста ў рэдакцыю жыхара (ці жыхаркі) вёскі Паўлава Слонімскага раёна, перакладзены з "тамтэйшай" на беларускую мову.

А вось апошні сказ гэтага "перла", які служыць і подпісам, хацелася б працытаваць без паправак: "Досвіданя ждем помощі перевbooрота вот тогда будет чесно!".

Які-небудзь інтэлектуал, прачытаўшы такое, можа падумаць: "Ну і што? Амерыку адкрылі? Відавочна, што бальшавіцкага кастрычніцкага перавароту нашчадкам паўлаўскіх сялян было мала, а культурная рэвалюцыя ў гэтую вёску і зусім не дайшла." І як толькі інтэлігент-інтэлектуал так падумае, забыўшыся на савецкую гісторыю пасля 1917 года, тым самым дапусціць класічную для сябе памылку — недаацэніць моцы гневу народнага. Што, дарэчы, ужо мела месца і ў навейшай гісторыі суверэннай Беларусі — у 1994 годзе на першых прэзідэнцкіх выбарах і ў 1995 ды ў 1996 гадах падчас рэферэндумаў.



Класічны краявід беларускай вёскі

Фота Віталя ГІЛЯ

І так павярнулася наша гісторыя, што тутэйшым разумнікам цяпер і баяцца асабліва няма чаго — у іх збольшага ўсё адабралі тыя, што ў другой палове 90-х умела скарысталіся са стагнацыі народных масаў. А вось людзям, якія на фоне збанкрутаванага калгаса "Кастрычнік" паспяхова робяць сваю справу, пагражае рэальная небяспека. Бо падманутыя прагнуць помсты. А такіх падманутых, як аўтар цытаванага вышэй ліста, у Беларусі мільёны. Спачатку іх апошні раз па-буйному падманулі камуністы-перабудоўшчыкі, калі ў аднячассе ў нішто ператварыліся дзесяткі тысяч потам зробленых савецкіх рублёў на ашчадкніжках. Незалежнікі свядомыя і незалежнікі ўчарашнія, камуністы не здолелі ні вярнуць адабранага (а народ чакаў), ні кардынальным чынам змяніць да лепшага жыццё ў суверэннай Беларусі. А найгорш жыць і працаваць стала ў калгасах. Калгаснікам патрэбен быў свой хлопец, які б прыйшоў і навёў парадак. Ён прыйшоў. Падобна, і сыходзіць не збіраецца. Тым больш назад у вёску, дзе ў калгасах па тры – чатыры месяцы не плоцяць заробак, а ўзорныя гаспадаркі сталі рэдкім выключэннем з усеагульнай нямогласці калгаснай сістэмы.

Атрымліваецца, што і гэты свой падмануў. Але губляць веру ў "свайго прэзідэнта" для калгасніка – як згубіць апошняе. І паколькі да "культурнай" рэвалюцыі, і асабліва на вёсцы, нам усё яшчэ вельмі далёка, то і гнеў народны выліваецца на тых, хто ў абыход калгасных палёў парабіліся прыватнікамі і "жыруюць проста на вачах". Канечне, яны не адзіныя ворагі ў разуменні селяніна-калгасніка, але надта ж колюць яму вочы сваімі поспехамі.

Вынесенае ў загаловак рытарычнае пытанне ў адрас вясковых бізнесменаў у большай ступені адносіцца да калгасніка. Бо, сапраўды, што яны без калгаса? Жыцця без калгаса вяскоўцы ў сваёй большасці не помняць.У калгасе дрэнна, але альтэрнатывы яму няма. І не ўсім жа помнікі надмагільныя ці мэблю рабіць! А вось жыць добра хочацца ўсім. Ды не ўсім можацца. А адсюль – прага справядлівасці па-бальшавіцку.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ШКОЛА

# ПЕРВЫЙ УРОК ПРОВЕЛИ ЖУРНАЛИСТЫ



Фота Віталя ГІЛЯ

**Не совсем обычно начался учебный год для учащихся 11-го "Б" класса СШ №8 г. Слонима. Вместо традиционного урока Мира состоялась, скорее всего, беседа, посвященная Дню белорусской письменности и печати.**

А в качестве "учителей" старшеклассников выступили корреспонденты "ГС" Ольга Шинкевич и Виталий Гиль. Классный руководитель Раиса Ивановна Фидрик, пригласившая журналистов, и сами ребята остались довольны интересным и познавательным рассказом корреспондентов о процессе издания газеты, организации работы редакции, о способах и сложностях, встающих на пути журналиста при поиске и получении необходимой информации.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ПОЧТА

# ПОЙМАНЫЙ КАРП ОКАЗАЛСЯ БОГАТЫРЕМ

*Недалеко от Слонима, в деревне Сеньковщина, есть озеро. Неплохое место для отдыха и ловли карпа, карася и окуня. Озеро платное: 3 тысячи рублей за дневку. Конечно, по нашим меркам, это многовато. Но, как говорится, улов стоит этого. Карась и карп там попадаются приличные. Рыбаки ловили до 2 кг карася и до 12 кг карпа. Да и окунь на малька берет граммов по 200-500.*

*Вот и мы с сыном Юрой вечером поехали в эти выходные порыбачить. Закинули "кормушки". Спустя некоторое время затрещала катушка. После подсечки я почувствовал, что на той стороне лески сидит нечто большое и сильное.*

*Юра быстро подогнал лодку с сачком. Через мгновение началась настоящая борьба. После более полуторачасового плавания по озеру (из них минут сорок по травяным зарослям) я понял, что мой соперник сдается, и вышел из лодки около дамбы. Было большое удивление, когда, подтянув карпа к плитам, его невозможно было затащить в сачок. Пришлось уповать на собственные силы. Руками, как вагонетку, вытолкал его по бетону наверх дамбы.. Размеры были впечатляющие. Да и вес оказался немалый – 19 кг 700 гр.*



Фота Віталя ГІЛЯ

Такого карпа и удержать трудно

*Поймали еще пару карасей граммов по 350, и на этом наша рыбалка закончилась.*

*Желаю всем слонимским рыбакам ни хвоста, ни чешуи!*

**Сергей СИНИЦЫН**

© PDF: Kamunikat.org 2017
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017

© PDF: Kamunikat.org 2017 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017



ЭКОЛОГИЯ

# ВОЙНА СЕТЯМ
## и их хозяевам-вандалам

Фота Віталя ГІЛЯ

*Сжигать сети помогали и отдыхавшие у озера зельвенцы*

**Объявили эту войну лесники деревни Озерница. Возле этой деревушки находится красивейшее озеро Бездонное. На его живописных берегах можно прекрасно отдохнуть, а заодно и порыбачить.**

Вот только рыбак рыбаку — рознь. Да и вовсе не рыбак тот, кто опутывает озеро многометровыми сетями, в жажде легкой наживы выбирает рыбу всю без остатка.

Когда-то и про Щару так думали. А вот ведь и не стало в Щаре настоящей рыбы. Выбили электроудочками. И мало кому до этого есть дело. А в Озернице нашлись неравнодушные люди и взяли озеро под свою охрану. Потому что озеро, фактически, принадлежит государству, а значит — практически, никому. И сети ставят все, кому не лень.

Вот только за последнюю неделю лесники сняли 23 сети общей длиной более чем в километр. Участь этих браконьерских снастей была решена однозначно — в огонь. Что и сделали на берегу Бездонного в предупреждение другим "промысловикам".

А что еще делать? Схватить за руку браконьеров сложно. Да если и задержишь, он отделается лишь штрафом, а завтра вновь возьмется за старое. И пригрозит еще физической расправой или знакомством с каким-нибудь милицейским чином. Проблем хватает.

Но зато и рыба в озере пока еще водится. И рыба солидная. В одной из конфискованных сетей нашли жереха в 6 килограммов весом. Значит, живет пока еще Бездонное. А скоро, может быть, и хозяин у него появится, — взять озеро в аренду собиралось Слонимское общество рыболовов.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

■ Согласно действующему законодательству, нарушение правил рыболовства и охраны рыбных запасов влечет предупреждение или наложение штрафа на граждан в размере от одной до пяти минимальных заработных плат и предупреждение или наложение штрафа на должностных лиц — от пяти до десяти минимальных заработных плат с конфискацией предметов, явившихся орудием нарушений, или без конфискации. (Кодекс РБ об административных правонарушениях, ст. 87)

ДА СВЯТА

# СУВЕНІРЫ ДА ЮБІЛЕЮ ГОРАДА

Фота Віталя ГІЛЯ

*Святочная прадукцыя фабрыкі мастацкіх вырабаў*

**У пятніцу ў Слонім прыйдзе свята. Рыхтуючыся да яго, наш горад значна памаладзеў і папрыгажэў. І не толькі знешне.**

На паліцах магазінаў і кіёскаў ужо цяпер з'явілася прадукцыя мясцовых прадпрыемстваў, прысвечаная 750-годдзю старажытнага Слоніма. Напрыклад, фабрыка мастацкіх вырабаў выпусціла 10 відаў сувеніраў з сімволікай горада. Гэта і роспіс па дрэву, і вырабы з саломкі, і разнастайныя сувеніры з аб'ёмнай разьбой. Усе гэтыя рэчы хутка стануць дэфіцытам, бо зроблены ў абмежаванай колькасці.

Да юбілею Слоніма найбольш дбайна папрацавала мясцовая друкарня. Тут выйшаў буклет каляровых фотаздымкаў з адлюстраваннем гістарычных помнікаў і мясцін горада, якія сфатаграфаваў Уладзімір Янушэвіч. Свет пабачылі слонімскія календары, сшыткі і дзённікі з эмблемкамі Слоніма. Літаральна сёння ў друкарні будзе аддрукавана вялікая гістарычная кніга "Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў". Яе склалі артыкулы на самыя розныя тэмы, прысвечаныя сучаснаму і гістарычнаму гораду-юбіляру.

У Слонімскай друкарні для вінзавода надрукаваны каляровыя ярлычкі, на якіх па-расійску напісана "Слоним. 750 лет". Гэтыя ярлычкі будуць прадавацца разам з вінна-гарэлачнымі вырабамі ў час юбілейных мерапрыемстваў.

Не застануцца ўбаку ад юбілею і іншыя слонімскія прадпрыемствы, установы і арганізацыі.

**Валерый КАВАЛЕНКА, Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ

# ГРОДЗЕНСКІ АБЛВЫКАНКАМ УЗНАГАРОДЗІЎ НАСТАЎНІКАЎ

**Напярэдадні новага навучальнага года Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт за добрасумленную плённую працу і заслугі ў педагагічнай і выхаваўчай дзейнасці ўзнагародзіў Ганаровай граматай галоўнага бухгалтара ўпраўлення адукацыі Слонімскага райвыканкама Надзею Іванашка і выхавацеля класнага калектыву СШ № 9 г. Слоніма Віктара Пензу.**

Граматы аблвыканкама атрымалі таксама Антон Кавалевіч — дырэктар Галынкаўскай СШ Зэльвенскага раёна, Валянцін Семяняка — загадчык аддзела адукацыі Зэльвенскага райвыканкама, Марыя Даўгач — дырэктар Хвінявіцкай СШ Дзятлаўскага раёна, Рыта Місцюкевіч — настаўніца СШ № 3 г. Дзятлава, Віктар Яфімік — майстар вытворчага навучання Казлоўшчынскага прафтэхвучылішча № 191, Тамара Крот — намеснік загадчыка аддзела адукацыі Мастоўскага райвыканкама, Анатоль Місюк — настаўнік СШ № 5 г. Масты і іншыя педагогі вобласці.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК НА МЕСЦЫ БЫЛОГА КАСЦЁЛА

**Каля каплічкі Святога Дамініка, што на вуліцы Пушкіна ў Слоніме, каталіцкія вернікі адкрылі мемарыяльны знак.**

Ён прысвечаны былым касцёлу Святога Міхала Архангела і дамініканскаму кляштару, якія былі збудаваны ў Слоніме ў 1680 годзе на месцы цяперашняга стадыёна "Юнацтва". А ў сярэдзіне XIX стагоддзя знішчаны рускімі царскімі ўладамі.

Адкрыццё шыльдаў, помнікаў і знакаў — добрая справа ў захаванні гістарычнай справядлівасці і праўды. Але крыўдна, што нават і тут не абыходзіцца без памылак. Прыкра, што яны ёсць і на мемарыяльным знаку, які адкрыўся каля каплічкі Святога Дамініка: замест слова "стадзіон" па-беларуску трэба, каб было слова "стадыён", замест слоў "царскамі уладамі" неабходна чытаць "царскімі ўладамі".

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Фота Віталя ГІЛЯ

*Мемарыяльны знак на месцы касцёла Святога Міхала Архангела*

ПОЧТА

# ВСТРЕЧА ЧЕРЕЗ 40 ЛЕТ

*"Нет, не забудет никто никогда школьные годы..."*

*Кому из нас не знакомы слова этой песни Д. Кабалевского, которая звучит не одно десятилетие. Именно под звуки "Школьного вальса" мы, выпускники 11-х классов СШ №2 далёкого 1962 года выпуска, входили в зал ресторана "Полонез" на встречу школьных друзей. А когда в зал вошла классный руководитель Любовь Ильинична Дорошкина, а мы, как тогда, 40 лет назад, все встали, приветствуя свою учительницу. Никто не стеснялся слёз радости, грусти по тем далёким годам нашего детства и юности.*

*А детство наше было нелёгким. Ведь мы, дети, рождённые в суровое время Великой Отечественной войны, хорошо помним тяжёлые послевоенные годы, разруху, огромные очереди за хлебом. Надо было вставать в 4 часа утра, чтобы занять очередь, и только к обеду можно было купить булку хлеба.*

*Помним наш город ещё в руинах. На наших глазах он восстанавливался, открывались предприятия. Школ в то время было 5. И все мы жили далеко не богато, и далеко не у каждого было 6 копеек на пончик и чай. Но жили дружно, весело, старались учиться. В школу ходили в школьных формах до 11 класса. И сейчас, когда я вижу старшеклассниц в школьных формах (а сейчас это встретишь не часто), с какой-то болью и грустью вспоминаю наших одноклассниц. И так хочется сказать теперешним ученицам: "Девочки, носите школьную форму. Ведь отшумит выпускной бал, и вы уже никогда не оденете её".*

*Но вернёмся к нашему вечеру. 22 человека собрались в зале. Приехала на этот вечер Рая Супрун из Харькова, Ира Кисель – заслуженный учитель Литвы из Клайпеды, Коля Лукашенко – кандидат медицинских наук из Минска, Ия Шкодова, закончившая школу с золотой медалью, а затем – университет. Она – мать-героиня, живет в Минске. Толя Потройный ехал из-за границы и заехал к нам в ресторан.*

*Казалось, что в этот вечер все наши выпускники, кто не смог прийти, были с нами. И в подтверждение тому из далёкой Воркуты прямо в ресторан позвонила Лена Панасюк – врач по профессии. Она поздравила нас с юбилеем, рассказала о себе, пообещала, что на 45-летний юбилей обязательно приедет.*

*Наша выпускница Ромма Василевская исполнила песню "Я вас люблю, ребята", посвящённую нам. Слова и музыку она написала сама.*

*Минутой молчания почтили память тех, кого уже никогда не будет с нами, кто ушёл из жизни. В память о них горело 9 поминальных свечей, были перечислены имена всех, не доживших до этой встречи. Тяжело было нам всем в эти минуты, а это были очень хорошие люди: чьи-то отцы, сыновья, матери и жёны, оставившие добрую память в сердцах своих родных и близких, и нас, одноклассников. На этом вечере каждый из нас рассказал о себе, о годах становления, о личной жизни, о своих детях. И каждый из нас был горд за своих детей – мы смогли вырастить достойную смену (у всех дети закончили ВУЗы).*

*Эта встреча произвела на всех нас огромное впечатление, что-то всколыхнула в наших сердцах, благодаря чему вернулось далёкое забытое. И на несколько счастливых мгновений мы снова почувствовали себя молодыми.*

*Храни вас Бог, дорогие мои одноклассники!*

**Ядвига СЫТАЯ**

© PDF: Kamunikat.org 2017 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017

© PDF: Kamunikat.org 2017 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017



ВЁСКА

# ВОСЕНЬСКІЯ ТУРБОТЫ ВЯСКОЎЦАЎ

Азярніца. Раніцай у цэнтры вёскі сабраліся жанчыны, — і сталага ўзросту, і маладзіцы. Яны чакалі транспарту, які павінен быў іх адвесці ў поле, дзе цярэбяць лён. Прыемна ўразіла іх ветлівасць і добразычлівасць, бо ў некаторых вёсках — а мы шмат ездзім, і не толькі па Слонімскаму раёну — сустракалі нас з нейкай незразумелай напалоханасцю.

Не, жанчыны ў Азярніцы не такія. Яны і пажартавалі, і з задавальненнем сфатаграфаваліся. Але на лён у той дзень жанчыны так і не паехалі. Апошнія 15 гектараў яшчэ "не дайшлі да кандыцыі".

Са старшынёй калгаса "Прагрэс", цэнтральная сядзіба якога знаходзіцца менавіта ў Азярніцы, пагутарыць не ўдалося — Мікалай Аляксандравіч Бусько па справах паехаў у Слонім. Тым не менш, сёе-тое выпала пабачыць на свае вочы, ці даведацца ад калгаснікаў.


*Азярніцкія прыгажуні сабраліся на нарад*

Людзей на вясковых вуліцах было не шмат. Яно і не дзіва — у восень работ восем. Большасць сялян была ў полі, на фермах. Дарэчы, у гаспадарцы зараз працуе больш за 200 калгаснікаў, сярод якіх шмат пенсіянераў.

На мехдвары сустрэлі інжынера калгаса Міхаіла Таўлая. У таго свае клопаты: дзе і за якія грошы набыць запчасткі, каб захаваць у рабочым стане тэхніку. Праца ў полі не спыняецца: капаюць бульбу, убіраюць кукурузу на падкормку жывёле, рыхтуюць сіласныя ямы.

А вось Аляксей Ракевіч паскардзіўся на слонімскіх сувязістаў. Яшчэ вясною яны перарылі асфальт, што на пад'ездзе да дома, а давесці траншэю да ладу не здолелі. Усе звароты Аляксея Васільевіча да начальніка вузла электроннай сувязі так нічым і скончыліся.

Таксама дагэтуль яшчэ патанае ў брудзе нечыстотаў двор дома №31 па вуліцы "50 год БССР", бо не працуе каналізацыйна-выносная станцыя. Больш за месяц не працуе, хаця яе і спрабуюць рамантаваць на працягу апошняга тыдня. Паўсюль праблемы.


*На Сынковіцкай ферме ідзе раздача кармоў для бычкоў*

Дарэчы, па дарозе ў Слонім цікавую рэч давялося пабачыць у вёсцы Сынковічы. Рабочыя фермы разам са школьнікамі склейвалі керасінавай лямпаю раскладзеную пасярод дарогі поліэтыленавую плёнку, якой закрываюць сіласныя ямы, бо па шырыні плёнка была занадта вузкая. Вось і вырашылі хлопцы выйсці з гэтага становішча.

Побач са славутым храмам у Сынковічах знаходзіцца спіртзавод. Але ён не працуе, бо ліцэнзію на выраб спірту заводу ніяк выдаць не могуць. Чаму? А хто яго ведае. Можа, нехта з чыноўнікаў хабару чакае, таму і цягне лямку.

**Валерый КАВАЛЕНКА, фота Віталя ГІЛЯ**

По выніках жніва пераможцам у Слонімскім раёне прызнаны калгас "Прагрэс". Ураджайнасць збожжавых і зерне-бабовых культур у гаспадарцы склала 34,3 цэнтнера з гектара.

Калгас узнагароджаны Ганаровай граматай Слонімскага райвыканкама і грашовай прэміяй у памеры 600 тысяч рублёў.

Сярод маладзёжных камбайнавых экіпажаў першае месца занялі механізатары з Азярніцы. Пераможцамі сталі Валерый Жук і Дзмітрый Макей. Экіпаж намалаціў 957 тон збожжа.

А Валянцін Федасюк выйшаў пераможцам сярод маладых вадзіцеляў, якія працавалі на адвозцы збожжа ад камбайнаў. Валянцін перавёз 620 тон збожжа.

Пераможцаў чакаюць Ганаровыя граматы і грашовыя прэміі (6 базавых велічынь).

НАВІНЫ

## ГИГАНТСКИЙ ОВОЩ


*Ванда Белькевич со своим кабачком*

**В огороде 77-летней слонимчанки Ванды Степановны Белькевич, которая живет на переулке Спортивный, вырос гигантский кабачок размером почти с метр.**

Хозяйка чудо-овоща сказала, что семечко она нашла на рынке, когда продавала цветы. Семя женщина посадила в теплице. Через некоторое время ростку уже не хватило места внутри парника, поэтому Ванда Степановна проделала отверстие и "вывела" кабачок на дерево.

Теперь овощ, по словам Ванды Степановны, весит больше 20-ти килограммов.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

## ГЕРОІ МУЛЬЦІКАЎ ПРЫЙШЛІ Ў ДЗІЦЯЧЫЯ САДКІ



**У мінулую пятніцу, 30 жніўня, маладзёжнае грамадскае аб'яднанне "Ветразь" арганізавала акцыю "Графіці для дзяцей". Актывісты "Ветразя" прыцягнулі да ўдзелу ў акцыі мясцовую графіці-каманду "SCK".**

Трое юных мастакоў, Раман і два Дзімы, размалявалі героямі мультфільмаў Уолта Дыснея веранды слонімскіх дзіцячых садкоў №6 і №20. Тым самым хлопцы дасягнулі мэты акцыі — зрабілі маленькае свята для дзяцей і праявілі ўласную творчасць.

Каманда "SCK" дзейнічае каля года. Юныя графіцісты гатовы і далей рабіць добрыя справы для горада, але, як прызналіся хлопцы, недахоп фарбы моцна абмяжоўвае іх магчымасці.

У перакладзе з італьянскай слова графіці азначае надпіс на камянях ці будынках. Найбольш старажытныя графіці ў Беларусі знойдзены на камяні Сафійскага сабора ў Полацку. Гэтыя надпісы адносяцца да XI стагоддзя і азначаюць імёны будаўнікоў храма.

Графіці, як сучасны падлеткавы рух, зарадзіўся ў Нью-Йорку ў сярэдзіне 70-х гадоў мінулага стагоддзя, а напрыканцы 80-х — дайшло да былога СССР. Паступова гэты рух пашыраўся і ў Беларусі. Першыя малюнкі графіці ў Слоніме з'явіліся, прыкладна, два з паловай гады назад, і на сённяшні дзень у горадзе дзейнічае некалькі каманд мастакоў-графіцістаў.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

БЛАГОДАРНОСТЬ

## СПАСИБО ЗА ПОМОЩЬ


Фота Віталя ГІЛЯ

**На минувшей неделе в Слониме прошла благотворительная акция «Поможем детям».**

Она проводилась с целью собрать обувь и одежду для воспитанников Слонимского детского дома, остро нуждающихся в этих вещах.

Организаторы акции благодарят всех слонимчан, которые не остались в стороне и оказали посильную помощь детям.

**Юрка КАРПАЧ**

НАВІНЫ

## ДЗЕЦІ ЎШАНАВАЛІ СВОЙ ГОРАД

**Бібліятэкары Слонімскай дзіцячай раённай бібліятэкі ў ліпені – жніўні праводзілі конкурс дзіцячых малюнкаў і вершаў "Мой любы горад Слонім такі прыгожы і родны", прысвечаны 750-годдзю Слоніма.**

А на мінулым тыдні ў чытальнай зале бібліятэкі 29 юных мастакоў і 17 паэтаў, а таксама слонімскія літаратары Іван Сяргейчык, Ірына Войтка, Таццяна Трафімчык, мастакі Яўген Іваноў, Станіслаў Славінскі, работнікі бібліятэкі і іншыя госці падводзілі вынікі конкурсу.

У тэматыцы дзіцячых малюнкаў пераважалі краявіды Слонімшчыны і гарадскі пейзаж. Першае месца ў конкурсе малюнкаў журы прысудзіла Наташы Хомчык, другое падзялілі Дзіма Варонік і Алена Бакавец, трэцяе — Максім Акулка і Яўген Цвікевіч.

У паэтычным конкурсе першымі былі названы Паша Сашко і Ганна Урбановіч, другое месца занялі Таццяна Гарэлава і Іван Лебедзеў, а трэцяе падзялілі паміж сабой Андрэй Муха і Каця Валовіч.


*Слухаюць вершы сваіх юных калегаў*

Пераможцы конкурсу атрымалі спецыяльныя прызы, але і ўсе астатнія ўдзельнікі не засталіся без падарункаў. Настольныя календары, літаратурны зборнік "Золак над Шчарай" і шакалад атрымалі ўсе юныя паэты і мастакі. Дарэчы, самаму маладому мастаку Антону Раманюку споўнілася яшчэ толькі пяць гадоў, а старэйшым канкурсантам — па шаснаццаць.

Спонсарам гэтага мерапрыемства быў Слонімскі хлебазавод.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2017 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017

© PDF: Kamunikat.org 2017 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017





**РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ГОРОДСКИХ АВТОБУСОВ**
в г.Слониме
на **7** и **8** сентября

**В связи с проведением мероприятий, посвященных юбилею города 7 и 8 сентября центр и часть ул. Пушкина будут закрыты для движений транспорта. Поэтому автобусы курсировать будут по изменённому расписанию, которое публикуется ниже.**

**Маршрут №1**
По расписанию выходного дня от вокзала до остановки "Спутник".

**Маршрут № 3**
Курсирует в режиме выходного дня.

**Маршрута №5**
**Кр. Партизан (Подлесная) – "Спутник":**
**Подлесная** — 6.40 7.40 8.40 9.40 11.30 12.00 12.30 13.00 13.30 14.10 14.40 15.40 16.40 17.40 18.40 21.20 22.20 0.10
**Кр. Партизан** — 9.10 10.10 15.10 16.10 17.10 18.10 19.40
**"Спутник"** — 6.25 7.25 8.25 8.55 9.25 9.55 10.47 11.15. 11.45 12.15 12.45 13.15 13.45 14.25 14.55 15.25 16.25 17.25 17.55 18.25 18.55 19.25 21.03 21.35 23.03 0.03
**Пл. Ленина – ССПЛ:**
**ССПЛ** — 6.10 7.10 8.10 8.40 9.10 9.40 10.10 11.01 11.30 12.00 12.30 13.00 13.30 14.00 14.40 15.10 15.40 16.10 16.40 17.10 17.40 18.10 18.40 19.10 20.25 21.20 21.50 22.50 23.50
**Пл. Ленина** — 6.00 6.55 7.55 8.25 8.55 9.25 9.55 10.48 11.15 11.45 12.15 12.45 13.15 13.45 14.25 14.55 15.25 15.55 16.25 16.55 17.25 17.55 18.25 18.55 20.10 20.50 21.35 22.05 23.05

**Маршрута №7**
Работает в режиме выходного дня по маршруту РАПТ – Пл. Ленина с добавлением рейсов в 23.04 и 0.06

**Маршрута №8**
Курсирует до остановки "Спутник" по расписанию выходного дня с добавлением рейса, отправлением в 0.10 от остановки "Спутник".

**Маршрут №10**
Работает в режиме рабочего дня с добавлением рейса, отправлением в 23.00 от остановки "Спутник".

**Маршрут №12**
**"Дружба"** — 6.55 8.05 8.35 9.17 9.45 10.27 11.35 12.15 12.45 13.55 14.35 15.05 15.45 16.15 17.00 17.40 18.20 19.00 19.30 20.01 20.40 21.35 22.45 (до пл. Ленина).
**Пл. Ленина** — 6.45 7.53 8.20 8.50 9.30 10.00 11.20 11.50 12.30 13.10 13.40 14.12
**"Спутник"** — до больницы автобус (помимо маршрута 8.10) отправляется в 7.10 8.20 9.32 10.30 11.20 12.30 13.40 14.25 15.05 16.00 17.25 18.12 18.57 20.55

Только на 7 и 8 сентября организуется движение автобуса по маршруту **магазин "Дружба" — вокзал** ( по ул. Шоссейной).
Отправление от магазина "Дружба"— 9.10 10.15 12.20 15.25 17.20 18.20 20.20 21.25
Отправление от вокзала 10.00 11.10 13.10 15.15 18.05 19.05 21.05 23.15

Автобус пригородного маршрута **Слоним – Жировичи – Залесье** будет курсировать по ул. Чкалова.

**Администрация автопарка №3**

ПРОИСШЕСТВИЕ

# ЛЕСНОЙ ПОЖАР В АЛЬБЕРТИНЕ



**В прошлый четверг из-за неосторожного обращения с огнем загорелся участок леса в районе Альбертина.**

Пожарные слонимского лесхоза пожар погасили быстро. Тем не менее, огонь уничтожил почти две сотки леса.

**Ольга ШИНКЕВИЧ, фото Виталия ГИЛЯ**

НАШИ УМЕЛЬЦЫ

# ОБЫЧНЫЙ "ЗАПОРОЖЕЦ" ПРЕВРАТИЛСЯ В КАБРИОЛЕТ



**Слонимчанин Юрий Чигрин (на снимке) три года назад решил почти полностью переделать "Запорожец" в шикарную машину с откидным верхом.**

Годы кропотливой работы, и обычная машина преобразилась в кабриолет.

По словам Юрия, реконструкция далась ему легко, потому что помогали друзья.

**Ольга ШИНКЕВИЧ, фото Виталия ГИЛЯ**

РЕКЛАМА

Девчонки и мальчишки,
А также их родители
Отведать много вкусностей
В «Местечке» не хотите ли?

Там вкусное мороженное,
А также много сладостей
И каждому ребенку —
В подарок — сувенир.

Мы будем рады видеть Вас по адресу:
**ул. Ершова, 50.** тел. **4 - 75 - 12**

НАВІНЫ

## КАНВЕРТ, ПРЫСВЕЧАНЫ АГІНСКАМУ

**Рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне "Белпошта" выпусціла канверт, прысвечаны вядомаму дыпламату, кампазітару і літаратару Міхалу Клеафасу Агінскаму (1765-1833).**

Дзяцінства Міхала Агінскага прайшло ў Слоніме пры двары яго дзядзькі Міхала Клеафаса Агінскага. Тут маленькі Міхал вучыўся іграць на фартэпіяна ў свайго знакамітага настаўніка Ю.Казлоўскага. А ва ўзросце 25-ці гадоў і сам пачаў пісаць цудоўныя музычныя паланезы, маршы і песні. Самы папулярны з усіх паланезаў — ля мінор "Развітанне з Радзімай" ведаюць ва ўсім свеце.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЗДАРЭННІ

## УКРАЛІ ЦЫБУЛЮ

**У ноч на 29 жніўня невядомыя праніклі ў Кастровіцкую школу і ўкралі адтуль каля 40 кг рэпчатай цыбулі.**

Цяпер міліцыі належыць высветліць, хто збядніў харчовы рацыён кастровіцкіх школьнікаў.

## ПРАПАЛІ КУРЫ

**У жыхаркі вёскі Лыскі Ф. у ноч з 28 на 29 жніўня прапалі з куратніка ўсе куры.**

Жанчына адразу заявіла ў міліцыю.

Па гэтаму факту праводзіцца следства.

## ЗНІК ДЫВАН

**На мінулым тыдні жыхарка вёскі Сурынка Ш. памыла дыван і павесіла на ноч сушыцца на вуліцы.**

Раніцай жанчына не знайшла сваю рэч на месцы.

## НАРКОТЫКІ Ў ХАДУ

**Апошнім часам пачасціліся выпадкі затрымання слонімскай міліцыяй грамадзян, якія мелі пры сабе наркатычныя рэчывы.**

Так 29 жніўня быў затрыманы з наркотыкамі сланімчанін З., 30 жніўня галоўкі мака знайшлі ў мясцовага жыхара Р., а 31 жніўня наркотыкі выявілі ў грамадзяніна С.

Усе трое раней былі асуджаны. Вядзецца следства.

## ЗАВОД НЕ ПАЦЯРПЕЎ

**Жыхары Брэсцкай вуліцы 20 жніўня назіралі клубы дыму і агню ў раёне маторарамонтнага завода.**

Складвалася ўражанне, што на прадпрыемстве нешта гарыць.

На самай справе ў той дзень згарэла сцірта саломы калгаса "Дружба", якая стаяла побач з заводам.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## ГОРЕЛ САРАЙ

**В прошлый вторник по Брестской улице в Слониме загорелся деревянный сарай.**

Огнем повреждены крыша и стены постройки.

Причина пожара и причиненный ущерб устранавливаются.

## ПОДЖЁГ СВОЙ ДОМ САМ

**В субботу, 31 августа, 25-летний житель деревни Озерница Слонимского района поджёг свой дом и сарай.**

Огнем уничтожены крыши и перекрытия зданий.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2017 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017

© PDF: Kamunikat.org 2017 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017



НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ЯНЫ БЫЛІ РОДАМ СА СЛОНІМШЧЫНЫ

**Наша газета публікуе сёння міні-энцыклапедыю славутых людзей Слонімшчыны. Вядома, што на адной старонцы немагчыма прыгадаць усіх знакамітых землякоў. Тым не менш, і гэты спіс дасць уяўленне аб тым, якая багатая наша зямля на таленты.**

### Валянціна Ададурава
**(1941-1995)**



Нарадзілася ў вёсцы Хадзявічы. Беларуская паэтка і педагог. Скончылася БДУ. Пры жыцці паспела выдаць толькі адзіны зборнік паэзіі "Глыбінка"(1994 г.).

### Рыгор Акулевіч
**(1907-1974)**

Нарадзіўся ў вёсцы Вялікая Кракотка. Беларускі грамадска-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст. Адзін з арганізатараў у былой Заходняй Беларусі Грамады і ТБШ. З 1928 года жыў у Канадзе. Быў адным са стваральнікаў федэрацыі рускіх канадцаў і яе друкаванага органа — газеты "Веснік". Напісаў і выдаў некалькі кніг.

### Максім Бурсевіч
**(1890-1937)**



Нарадзіўся ў вёсцы Чамяры. Беларускі палітык і педагог. Адзін з кіраўнікоў Беларускай сялянска-работніцкай Грамады (БСРГ). Рэпрэсіраваны і расстраляны ў 1937 годзе.

### Юзаф Быхавец
**(1778-1845)**

Нарадзіўся ў вёсцы Хмяльніца. Польскі асветнік і перакладчык. Скончыў Галоўную школу Вялікага княства Літоўскага. Слухаў лекцыі ва ўніверсітэтах Германіі. Працаваў у Варшаве ў міністэрстве справядлівасці. Удзельнік вайны Францыі з Расіяй на баку Напалеона. Пераклаў на польскую мову творы Канта, Ірвінга, Лафантэна, Вашынгтона і іншых.

### Янка Бялькевіч
**(1883-1960)**



Нарадзіўся ў вёсцы Варонічы. Беларускі мовазнавец і педагог. Скончыў Свіслацкую семінарыю і БДУ. Працаваў у Беларускай Акадэміі навук, дырэктарам Мсціслаўскага педтэхнікума. Аўтар "Краёвага слоўніка ўсходняй Магілёўшчыны". У 1930 годзе быў рэпрэсіраваны.

### Уладзімір Бялько
**(1911-1933)**



Нарадзіўся ў вёсцы Мялькавічы. Паэт, выдавец і змагар за беларускія школы. Вучыўся ў Віленскай гімназіі. У 1932-33 гадах выдаваў на Слонімшчыне газету "Піянер". Закатаваны польскай паліцыяй.

### Антон Валынчык
**(1896-1985)**



Нарадзіўся ў вёсцы Мялькавічы. Беларускі хормайстар, музычны педагог, кампазітар. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі. Скончыў Жыровіцкую духоўную семінарыю і Вышэйшыя курсы Варшаўскай кансерваторыі. Кіраваў царкоўнымі хорамі. Быў хормайстрам Гродзенскага народнага ансамбля песні і танца "Нёман". Пісаў песні на словы беларускіх паэтаў.

### Міхал Валовіч
**(1806-1833)**



Нарадзіўся ў вёсцы Парэчча. Беларускі рэвалюцыянер, сацыяліст-утапіст. Вучыўся ў Віленскім універсітэце. Удзельнік паўстання 1830-31 гадоў на Беларусі. У сакавіку 1833 года арганізаваў партызанскі атрад і выступіў супраць рускага царызму на Беларусі. Па загаду губернатара Мураўёва, наш зямляк быў арыштаваны і павешаны ў Гродне.

### Васілька
**(XIII ст.)**

Слонімскі князь Васілька ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1281 годам. У саюзе з валынскім князем Уладзімірам Васількавічам і з і іншымі князямі вёў барацьбу з Баляславам Мазавецкім.

### Самуіл Гіршорн
**(1876-1942)**

Нарадзіўся ў Слоніме. Польскі і яўрэйскі паэт, перакладчык, публіцыст, выдавец і палітык. У 20-я гады стварыў і выдаваў газеты "Nasz kurjer", "Nasz dziennik". Заснавальнік яўрэйскай народніцкай партыі (фалькісты). Быў дэпутатам сейма Польшчы.

### Сяргей Дарожны
**(1909-1943)**



Нарадзіўся ў Слоніме. Беларускі паэт і перакладчык. Скончыў БДУ. У 1936 годзе быў рэпрэсіраваны і загінуў у Ніжне-Амурскім канцлагеры. З друку выйшлі чатыры зборнікі вершаў.

### Хведар Данілюк
**(1877-1960)**



Нарадзіўся ў вёсцы Сурынка. Беларускі рэлігійны і вайсковы дзеяч. Скончыў Жыровіцкую духоўную семінарыю і Гатчынскую ваенную школу. Удзельнік Слуцкага паўстання. У 1942 годзе прымаў удзел у з'ездзе беларускага духавенства, дзе была абвешчана Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква (БАПЦ). З 1950 года жыў у ЗША.

### Лукаш Дзекуць-Малей
**(1888-1955)**

Нарадзіўся ў Слоніме. Беларускі грамадскі і рэлігійны дзеяч, прыхільнік баптыстаў і евангельскіх хрысціян на Беларусі. Скончыў настаўніцкія курсы ў Вільні і рэлігійныя курсы ў Пецярбургу. У 1942 годзе ў Мінску выдаў малітоўнік на беларускай мове.

### Хацкель Дунец
**(1897-1937)**

Нарадзіўся ў Слоніме. Яўрэйскі і беларускі крытык і публіцыст. Скончыў Віцебскі педтэхнікум. Быў рэдактарам газеты "Літаратура і мастацтва", намеснікам наркома асветы БССР. У 1936 годзе рэпрэсіраваны і расстраляны.

### Павел Жданаў
**(1903-1986)**

Нарадзіўся ў Слоніме. Герой Савецкага Саюза. Скончыў ваенную акадэмію імя Фрунзе. Удзельнік Курскай бітвы ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

### Анатоль Іверс
**(1912-1999)**



Нарадзіўся ў вёсцы Чамяры. Беларускі паэт, публіцыст, журналіст, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пры жыцці выдаў шэсць паэтычных кніг.

### Міхал Канарскі
**(1784-1861)**

Нарадзіўся ў Слоніме. Польскі журналіст і педагог. Скончыў Жыровіцкую школу базыльянаў і Віленскі ўніверсітэт. Выдаваў газету "Balamut".

### Юльян Корсак
**(1806-1855)**

Нарадзіўся ў Слоніме. Польскі паэт і перакладчык. Скончыў Віленскі ўніверсітэт. Быў старшынёй Слонімскага павятовага суда. Выдаў кнігі "Вершы"(1830), "Новыя вершы"(1840). Пераклаў на польскую мову творы Гётэ, Шылера, Байрана, Гарацыя.

### Павел Крынчык
**(1898-1975)**



Нарадзіўся ў вёсцы Едначы. Беларускі грамадскі і культурны дзеяч. З 1927 года — актыўны сябра ТБШ, а таксама дэпутацкага клуба "Змаганне". Уваходзіў у заходнебеларускі камітэт па падрыхтоўцы еўрапейскага сялянскага кангрэсу ў Берліне. Быў рэпрэсіраваны.

### Максім Левін
**(1904-1963)**

Нарадзіўся ў Слоніме. Рускі антрапалаг, этнограф, археолаг. Доктар гістарычных навук, прафесар. Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт і аспірантуру. Працаваў намеснікам дырэктара Інстытута этнаграфіі Акадэміі навук СССР. Даследаваў антрапалогію і этнаграфію Сібіры, Сярэдняй Азіі і Японіі.

### Яўген Леашэня
**(1900-1981)**



Нарадзіўся ў Альбярціне. Вайсковец, краязнавец, педагог. Генерал-лейтэнант інжынерных войск. Кандыдат ваенных навук, дацэнт. Скончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе. Удзельнік грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Напісаў і пакінуў нашчадкам гісторыю Слоніма.

### Кандрат Лейка
**(1860-1921)**



Нарадзіўся ў вёсцы Збочна. Беларускі паэт, драматург, празаік і педагог. Скончыў Азярніцкую пачатковую школу і Свіслацкую гімназію. Аўтар першай беларускай п'есы для лялечнага тэатра "Снатворны Мак". Друкаваў вершы, апавяданні і артыкулы.

### Гальяш Леўчык
**(1880-1944)**



Нарадзіўся ў Слоніме. Беларускі паэт, мастак, музыкант, калекцыянер. Скончыў у Слоніме павятовую школу. У Варшаве стварыў беларускае зямляцтва, вёў культурна-асветніцкую работу.

Першы зборнік вершаў "Чыжык Беларускі" пабачыў свет у Вільні ў 1912 годзе. Калекцыяніраваў усё пра Слонім, а таксама кнігі, мастацтва і этнаграфічныя каштоўнасці.

### Наях Лур'е
**(1886-1960)**

Нарадзіўся ў мястэчку Блошна. Яўрэйскі пісьменнік. Вучыўся ў хедэры, у ешыботах Слоніма. Пісаў апавяданні і літаратурна-крытычныя артыкулы. Выдаў шмат кніг.

### Міхаіл Міско
**(1904-1972)**

Нарадзіўся ў вёсцы Чамяры. Доктар гістарычных навук. Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт. Даследаваў праблемы нацыянальна-вызваленчага руху ў Польшчы і ў Беларусі. Выдаў некалькі гістарычных манаграфій.

### Якуб Міско
**(1911-1981)**

Нарадзіўся ў вёсцы Чамяры. Беларускі пісьменнік і журналіст. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Літаратурная спадчына яго сабрана ў кнізе "Маё маўклівае сэрца"(1983г.).

### Венцаслаў Пелікан
**(1790-1873)**

Нарадзіўся ў Слоніме. Вучоны ў галіне медыцыны, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Доктар медыцыны і хірургіі, прафесар. Скончыў Віленскі ўніверсітэт і Пецярбургскую медыка-хірургічную акадэмію. Быў рэктарам Віленскага ўніверсітэта, дырэктарам медыцынскага дэпартамента ваеннага міністэрства. Пісаў падручнікі па медыцыне.

### Андрэй Пракапчук
**(1896-1970)**



Нарадзіўся ў вёсцы Чамяры. Беларускі вучоны ў галіне дэрматавенералогіі. Доктар медыцынскіх навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі навук, заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт. Распрацаваў і ўкараніў у практыку метад лячэння чырвонай ваўчанкі акрыхінам.

### Барыс Пішчыкевіч
**(1899-1974)**



Нарадзіўся ў вёсцы Сасноўка. Герой Савецкага Саюза. Скончыў Інстытут чырвонай прафесуры. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў Лоеўскім раёне.

### Канстанцін Пушкарэвіч
**(1890-1942)**

Нарадзіўся ў Слоніме. Беларускі і рускі літаратуразнавец, мовазнавец, гісторык, перакладчык, педагог. Доктар філалагічных навук, прафесар. Скончыў Гродзенскую гімназію і Пецярбургскі ўніверсітэт. Працаваў у Томскім і Ленінградскім універсітэтах. Даследаваў славянскія мовы, перакладаў творы беларускіх пісьменнікаў на рускую мову.

### Фларыян Пякарскі
**(1868-1919)**

Нарадзіўся ў Слоніме. Польскі і беларускі мастак. Скончыў Кракаўскую акадэмію мастацтваў. Удзельнічаў у многіх еўрапейскіх выставах. Творы зберагаюцца ў музеях і галерэях Вільні, Львова, Варшавы.

### Зыгмунд Пуслоўскі
**(1848-1913)**

Нарадзіўся ў Альбярціне. Беларускі і польскі калекцыянер і мецэнат. Яго калекцыя часткова ўвайшла ў музей Кракаўскага ўніверсітэта.

### Язэп Стаброўскі
**(1869-1968)**



Нарадзіўся ў Слоніме. Беларускі археолаг, краязнавец, музеязнавец, калекцыянер. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус і Маскоўскі археалагічны інстытут. Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне, палкоўнік. Заснавальнік Слонімскага раённага краязнаўчага музея. Быў членам-карэспандэнтам Віленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага таварыства, членам Яраслаўскага археалагічнага таварыства. Аўтар многіх гістарычна-краязнаўчых матэрыялаў.

### Мітрафан Тамільчык
**(1896-1938)**

Нарадзіўся ў вёсы Хадзявічы. Беларускі фізік і педагог. Скончыў БДУ і аспірантуру. Працаваў у беларускім політэхнічным інстытуце. У 1938 годзе быў арыштаваны і расстраляны.

### Яўген Хлябцэвіч
**(1884-1953)**

Нарадзіўся ў вёсцы Жыровічы. Беларускі і рускі бібліятэказнавец, літаратуразнавец, публіцыст і педагог. Кандыдат педагагічных навук. Скончыў Жыровіцкую духоўную семінарыю і Пецярбургскі ўніверсітэт. Быў адным з арганізатараў Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Пецярбургскага ўніверсітэта. Працаваў у Наркамаце асветы Расіі, быў дэлегатам Усерасійскага з'езда па бібліятэчнай справе. Аўтар шматлікіх бібліяграфічных і літаратуразнаўчых публікацый.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

© PDF: Kamunikat.org 2017 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2017

